Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №9(93), верасень, 2017г.

# ВЫНІКІ ВЕРАСЬНЁЎСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

**16 верасьня адбылося апошняе пасяджэньне Сойму Партыі БНФ бягучага скліканьня. Былі разгледжаны пытаньні аб палітычнай сытуацыі і аб падрыхтоўцы да маючага адбыцца 30 верасьня XVIII Зьезда Партыі БНФ (XV Зьезд Грамадзкага аб'яднаньня БНФ "Адраджэньне").** Сойм зацьвердзіў справаздачы адказнага сакратара Управы і кіраўнікоў камісіяў Сойму. Наступным разам Сойм зьбярэцца ўжо ў новым складзе, які будзе абраны падчас справаздачна-выбарчага Зьезду, што прызначаны на 30 верасьня.

Напачатку пасяджэньня Сойм воплескамі павіншаваў канцлера Партыі БНФ **Натальлю Дземянцей** з днём народзінаў, які прыпаў на дзень пасяджэньня.

З дакладам аб палітычнай сытуацыі перад сябраі Сойму выступіў старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч**. У сваім выступе ён засяродзіўся на тых пагрозах, якія нясе Беларусі правядзеньне супольных расейска-беларускіх вучэньняў "Захад-2017", што адбываюцца цяпер на тэрыторыі нашай краіны.

"Гэтыя вучэньні не патрэбныя Беларусі і беларускаму народу. Яны патрэбныя толькі Крамлю каб накаляць сытуацыю у рэгіёне, каб сеяць пагрозы і напружанасьць, у тым ліку паміж Беларусьсю і суседнімі краінамі. Таксама яны пакліканыя прадэманстраваць сьвету палітычную несамастойнасьць сёняшняга кіраўніцтва Беларусі, а таксама паказаць Лукашэнку, наколькі ён насамрэч залежны ад маскоўскай падтрымкі. Паказальна, што сцэнар вучэньняў фактычна распрацоўваўся ў Маскве, назіраецца няўзгодненасьць паміж бакамі. У гэтых вучэньнях Беларусь ёсьць не паўнавартасным партнэрам, а падпарадкаваным аб'ектам, на тэрыторыі якога разгортваецца аператыўная гульня, якая скіраваная на распрацоўку сцэнароў гібрыднай вайны, у тым ліку на захоп тэрыторыі нашай краіны. Паказальным тэстам сталася раптоўнае паведамленьне пра скіраваньне на тэрыторыю Беларусі дадатковай танкавай арміі звыш узгодненага бакамі ліку расейскіх войскаў. Можна ўпэўнена сказаць, што беларускі генштаб гэты тэст праваліў, прадэманстраваўшы няздольнасьць адэкватна рэагаваць на відавочныя пагрозы нашай нацыянальнай бясьпецы. У інфармацыйнай плашчыні кіраўніцтва Беларусі апынулася нядольным адбіваць атакі з Усходу" – сказаў Аляксей Янукевіч.

Старшыня Партыі БНФ адзначыў, што падчас гэтых вучэньняў адпрацоўваецца не толькі палітычны ціск на сёняшнюю, залежную ад Масквы Беларусь. Сцэнар вайны з уяўнай "**Вейшнорыяй**" сьведчыць пра адпрацоўку варыянту адкрытай акупацыі нашай краіны – ён можа быць ужыты ў выпадку зьмены рэжыму ў Менску. Гэта сцэнар задушэньня нацыянальна-вызвольнага супраціву, і вельмі прыкра, што ў гэтым сцэнары прымаюць удзел цяперашнія беларускія жаўнеры. "Так было і з Украінай, і з Грузіяй – спачатку ладзіліся вучэньні, а потым адпрацаваныя падчас іх сцэнары акупацыі былі ўжытыя на практыцы. Крэмль адкрыта дэманструе намер сілай войска пакінуць беларускі народ у няволі ці нават цалкам ліксідаваць беларускую дзяржаўнасьць" - выказаў перасьцярогу Аляксей Янукевіч.

На прапанову старшыні партыі Сойм прыняў заяву з нагоды беларуска-расейскіх вайсковых вучэньняў "Захад-2017". У заяве адзначаецца, што вучэньні "Захад-2017" падрываюць значэньне Менску як перамоўнай пляцоўкі па ўрэгуляваньні канфлікта ва Ўкраіне, спараджаюць насьцярожанасьць з боку суседніх дзяржаваў, выклікаюць напружанасьць ў рэгіёне, наносяць шкоду навакольнаму асяроддзю Беларусі і не спрыяюць маральна-патрыятычнаму выхаваньню беларускіх вайскоўцаў як надзейных абаронцаў Айчыны. Партыя БНФ заяўляе, што пабудова незалежнай, па-эўрапэйску заможнай і стабільнай Беларусі магчымая толькі пры ўмове выхаду нашай дзяржавы з усіх нераўнапраўных інтэграцыйных хаўрусаў з імпэрскай Расеяй, у тым ліку з гэтак званай "саюзнай дзяржавы" і Арганізацыі дамовы пра калектыўную бясьпеку (АДКБ).

"Супрацьпаставіць гэтым пагрозам беларускі народ можа толькі нацыянальную кансалідацыю – гэта адзіны сродак умацаваньня дзяржаўнай незалежнасьці нашай краіны. Пры гэтым марныямі з'яўляюцца разлікі на тое, што нацыянальная кансалідацыя можа скласьціся вакол дзеючай улады. Апошнія крымінальныя справы супраць фігурнатаў "справы патрыётаў" (сярод абвінавачаных былі двое сябраў БНФ), супраць кіраўнікоў незалежных прафсаюзаў, адміністратыўны перасьлед у выглядзе штрафаў і арыштаў удзельнікаў мірных акцыяў пратэсту сьведчаць – улады не зрабілі ніводнага кроку насустрач незалежнаму беларускаму грамадзтву" – сказаў Аляксей Янукевіч. Старшыня Партыі БНФ яшчэ раз адзначыў відавочны палітычны характар "справы патрыётаў" і "справы прафсаюзаў", падкрэсліўшы, што зьняволеныя па гэтых справах з'яўляюцца палітычнымі вязьнямі.

Аляксей Янукевіч заявіў, што "лагодная беларусізацыя", пра якую часам заяўляюць асобныя аглядальнікі, у значнай ступені з'яўляецца дэкляратыўнай, палавіністай, а часам і увогуле ілюзорнай. У якасьці прыкладу ён прывёў адмову ўладаў на прапанову ў рэабілітацыі Ларысы Геніюш, якую цяпершнія кіраўнікі Беларусі па-ранейшаму залічваюць у разрад злачынцаў на падставе рашэньняў савецкіх судоў па сфабрыкаваных абвінавачаньнях у антысавецкай дзейнасьці і супрацоўніцтве з міравой буржуазіяй. "Надзеі на тое, што беларушчына раптам прыйдзе знутры гэтай сыстэмы – марныя. Яна можа прыйсьці толькі ад беларускага народа, ад беларускага грамадзтва" – сказаў Аляксей Янукевіч.

Старшыня Партыі БНФ заявіў, што рэжым працягвае неабвешчаную ўнутраную вайну супраць беларускага народа, якая выяўляецца ў вынішчэньні ўсіх незалежных ад улады інстытуцыяў. У якасьці красамоўнага прыкладу ён прывёў пазбаўленьне статуса вядомых адвакатаў: 12 верасня Міністэрства юстыцыі праводзіла пазачарговую пераатэстацыю ў дачыненні да 21 адваката Мінскай гарадской калегіі адвакатаў. Сярод прызнаных "некваліфікаванымі" – Ганна Бахціна, абаронца фігуранта справы "аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў" (так званай "справы патрыётаў") Міраслава Лазоўскага, якая раней абараняла Эдуарда Пальчыса ды іншых палітвязьняў.

Magistrat

**Выдавец**:
Віцебская Рада
Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

***http://kamunikat.org/mahistrat.html***

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для контактаў:
8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.
**E-mail: kas_vit@tut.by**

**WWW.NARODNY.ORG**
**VK.COM/PARTYJA_BNF**
**WWW.MOLADZ.INFO**
**VK.COM/BNF_MOLADZ**

**АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ**

**Рэквізіты:**
**Грамадскае аб'яднанне БНФ «Адраджэньне» Адрас: г. Мінск, вул. Чарнышэўскага, д. 3, пак.48а УНП 100052236**
**ААТ «Банк БелВЭБ»**
**г. Мінск Мінскае аддзяленне №2 Адрас банка: 220004 г.Мінск, пр-т Пераможцаў, 100**
**BIC SWIFT: BELBBY2X**
**IBAN BY70 BELB 30151001470040226000**
**Прызначэнне плацяжу: Дабрачынны ўнёсак**
**Дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# АЛЯКСЕЙ ЯНУКЕВІЧ: “ЗАХАД-2017” – ГЭТА СЦЭНАР АНЭКСІІ БЕЛАРУСІ

Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч кажа, што скандал з пазапланавай перадыслякацыяй ў Беларусь расейскіх танкаў сьведчыць пра наяўнасьць у вучэньнях “Захад-2017” ценявога складніка, пра які не пастаўлены ў вядомасьць беларускі бок. І складнік гэты насамрэч можа быць зьвязаны з адпрацоўкай сцэнару інтэрвэнцыі ў Беларусь, у тым ліку з выкарыстаньнем мэханізмаў інфармацыйнай вайны.

Пра гэта палітык напісаў у сваім акаунце ў сацыяльнай сетцы Фэйсбук:

Сёньняшняе перакідваньне супярэчлівымі заявамі паміж міністэрствамі абароны Расеі і Беларусі праясняе характар стасункаў паміж "партнэрамі" па вучэннях Захад-2017.

Паведамленне з РФ гучала ясна: танкі 1-й танкавай арміі рушаць маршам на тэрыторыю Беларусі. Адпаведны рэліз быў распаўсюджаны медыямі, і яшчэ цяпер гэтае паведамленьне вісіць на сайце расейскага мінабароны без аніякіх зьняпраўджваньняў. У беларускага ж абароннага ведамства толькі пад вечар зьявіўся каментар што, маўляў, гэта частка легенды вучэньняў, якая не прадугледжвае рэальнай перагрупоўкі дадатковых частак на тэрыторыю Беларусі.

З гэтага дыялогу прэс-службаў двух штабоў можна зрабіць наступныя высновы:

Па-першае, расейскі бок у межах вучэньняў мае (і рэалізуе) свой сцэнар і вырашае свае задачы, нават не ставячы ў вядомасьць сваіх беларускіх партнэраў. У тым ліку ў гэтай сепаратнай, ценявай частцы вучэньняў Масква адпрацоўвае пераброску войскаў у Беларусь бяз згоды і без запрашэньня беларускага боку. Такім чынам, сцэнар інтэрвенцыі і захопу нашай краіны Крамлём адпрацоўваецца – і ўсё гэта ў межах быццам бы "сяброўскіх" вучэньняў! І беларускаму боку тут наканаваная роля не суб'екта, а аб'екта вучэньняў.

Па-другае, з улікам важнасьці інфармацыйнага складніку ў тых апэрацыях гібрыднай вайны, якія апошнія гады здзяйсьняла Расея супраць сваіх суседзяў, "няўзгодненасьць" інфармацыі з штабоў Менску і Масквы не выглядае выпадковасьцю. Гэта разумны і пралічаны тэст – з мэтай атрыманьня зьвестак пра тое, як беларускі дзяржаўны і вайсковы апарат будзе рэагаваць на паведамленьні пра набліжэньне да беларускай мяжы расейскіх танкаў. Сучасныя вучэньні адбываюцца цяпер ня толькі на ўзроўні "жалеза", але і на ўзроўні інфармацыйных атакаў. Беларускае вайсковае ведамства, якое адмаўляецца адказваць на пытаньні журналістаў, дэманструе сваю негатоўнасьць супрацьстаяць апэрацыям на інфармацыйным тэатры вайсковых дзеянняў.

Вучэньні "Захад-2017" – гэта сапраўды адпрацоўка Крамлём сцэнара анэксіі Беларусі мэтадамі гібрыднай вайны, з адпаведным інфармацыйным забесьпячэньнем. Падазраю, што ў бліжэйшыя дні (і па-за межамі пэрыяду афіцыйных вучэньняў) нас чакаюць новыя інфармацыйныя правакацыі.

#Запад2017 #Захад2017 #Вейшнория #Вейшнорыя #zapad201

# КАМАНДА ПБНФ ПЕРАМАГЛА

**Футбольная каманда Партыі БНФ перамагла ў турніры на Кубак Свабоды імя Генадзя Карпенкі, які адбыўся ў суботу 23 верасьня пад Менскам.** Сёлета спаборніцтвы на Кубак Свабоды адбыліся ў юбілейны, дваццаты раз.

На групавым этапе каманда БНФ, пасьлядоўна абыграўшы зборную журналістаў (мінулагодні ўладальнік кубку), дружыны Партыі “Зялёныя” і АГП, ўзяла максімальную колькасьць пунктаў і выйшла ў паўфінал з першага месца.

З другой групы ў паўфінал выйшлі каманды Беларускага Руху і БХД, якія абыйшлі зборныя БСДП “Грамада” і Руху “За свабоду”.

У паўфінале каманда БНФ упэўнена перамагла хрысціянскіх дэмакратаў, якія затым у матчы за трэцяе месца саступілі камандзе Беларускага руху.

Такім чынам фронтаўцы выйшлі ў фінал футбольнага турніру на Кубак Свабоды імя Генадзя Карпенкі, які ладзіўся сёлета ў юбілейны, дваццаты раз. У фінале каманда БНФ гуляла з АГП. Напружаны матч ня даў вырашэньня – 1:1, і толькі пэнальці вызначылі пераможцу. Лепшым гульцом турніру прызнаны Сяргей Лінскі з каманды Партыі БНФ, лепшым брамнікам – Анатоль Лябедзька з каманды АГП.

Варта адзначыць, што абодва фіналісты (і БНФ, і АГП) гралі ў форме, упрыгожанай лагатыпам юбілейнай кампаніі да стагоддзя Беларускай народнай рэспублікі, што распрацаваны крамай **“symbal.by”**. Уся лінейка святочнай прадукцыі і бясплатныя падарункавыя паштоўкі тут: https://symbal.by/products/bnr100/

# ВЫНІКІ ВЕРАСЬНЁЎСКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

Напрыканцы свайго выступу Аляксей Янукевіч даў палітычную ацэнку тым заявам старшыні ЦВК Ярмошынай, якія могуць быць інтэрпрэтаваныя як намер развесьці ў часе правядзеньне наступных парлямэнцкіх выбараў і выбараў прэзідэнта, якія прыпадаюць на 2020 год. Паводле старшыні БНФ найбольш верагодным з'яўляецца падрыхтоўка рэжыму на канфрантацыйнага і рэпрэсіўнага сцэнару правядзеньня выбараў у звыклым рэжыме напрыканцы 2019 ці напачатку 2020 года. Пры прадказальнай негатыўнай ацэнцы такой кампаніі замежнымі назіральнікамі ўлады могуць адразу ж у 2020 годзе правесьці чарговыя парлямэнцкія выбары, па звыклай маніпуляцыйнай працэдуры, але дапусьціўшы ў парлямэнт аднаго-двух незалежных кандыдатаў – разлічваючы адтрымаць пазытыўную рэакцыю Захаду.

Напярэдадні маючага адбыцца 30 верасьня чарговага справаздачна-выбарчага Зьезду партыі Сойм Партыі БНФ зслухаў справаздачы адказнага сакратара ўправы сп. Зьміцера Салошкіна, старшыні маладзёвай камісіі сп. Юрася Лукашэвіча, старшыні адукацыйнай камісіі сп. Рыгора Кастусёва, старшыні праўна-аналітычнай камісіі сп. Юрыя Чавусава, старшыні міжнароднай камісіі сп. Ігара Лялькова за перыяд ад 2014 году. Па выніках абмеркаваньня і адказаў на пытаньні Сойм прызнаў працу адказнага сакратара управы і старшыняў камісіяў здавальняючай.

Адказны сакратар праінфармаваў Сойм аб стане падрыхтоўкі да маючага адбыцца зьезду. На дадзены момант праведзена 20 тэрытарыяльных сходаў па вылучэньні дэлегатаў на зьезд, вылучана агулам 152 дэлегаты (у тым ліку 101 праз тэрытарыяльныя сходы, 49 як сябры сойму і 2 як сябры Рэвізійнай камісіі). У бліжэйшы тыдзень павінныя прайсьці яшчэ 8 сходаў, у тым ліку ў некаторых абласных цэнтрах. Адказны сакратар заклікаў прадстаўнікоў арганізацыйных структураў дысцыплінавана падыходзіць да афармленьня вынікаў сходаў у пратаколах.

Паводле традыцыі Сойм адрасаваў зьезду рэкамендацыю датычна будучага складу Сойму новай кадэнцыі. Па выніках абмеркаваньня прапанаваных палітычнай камісіяй партыі і рэгіянальнымі аргструктурамі кандыдатураў шляхам адкрытага галасаваньня на конкурснай аснове ў склад наступнага скліканьня кіруючага органа партыі рэкамэндаваныя кандыдатуры 52 сябраў Партыі БНФ, у тым ліку сярод іх 10 асобаў, якія раней не былі сябрамі сойму бягучай кадэнцыі. Сойм таксама зацьвердзіў праект рэгляманту абраньня старшыні, намесьнікаў старшыні, сябраў Сойму і сябраў Рэвізійнай камісіі, які будзе прапанаваны дэлегатам Зьезду.

Завяршаючы працу сябры Сойму воплескамі віталі старшыню Партыі БНФ Аляксея Янукевіча, якія сыходзіць з пасады ў сувязі з нормай статута пра максімальныя два тэрміны знаходжаньня на пасадзе старшыні партыі. Наступны Сойм зьбярэцца ўжо ў новым складзе пад старшынствам новаабранага старшыні. На дадзены момант пра намер вылучацца на пасаду старшыні абвесьцілі пяць прэтэндэнтаў: кіраўнік Менскай раённай арганізацыі Ільля Дабратвор, прадстаўіца Полацкай арганізацыі Вольга Дамаскіна, прадпрымальнік Алесь Таўстыка, намесьнік старшыні Рыгор Кастусёў і намесьнік старшыні Ігар Лялькоў.

# ЗАЯВА ПАРТЫІ БНФ

з нагоды вайсковых вучэньняў "Захад-2017"

Прынятая Соймам Партыі БНФ 16 верасьня 2017 году

З 14 па 20 верасьня 2017 года узброенымі сіламі Расейскай Фэдэрацыі і Рэспублікі Беларусь праводзіцца супольнае стратэгічнае вучэньне "Захад-2017". Асноўная частка вучэньняў адбываецца на тэрыторыі Беларусі. Нягледзячы на афіцыйна абвешчаны антытэрарыстычны і абарончы характар вучэньняў, іх рэальны сцэнар і беспрэцэдэнтны маштаб перамяшчэньня ў Беларусь расейскіх войскаў і тэхнікі сьведчаць пра неадпаведасьць вучэньняў нацыянальным інтарэсам Беларусі і мэтам захаваньня бясьпекі ў нашым рэгіёне Эўропы.

Правядзеньне вучэньняў "Захад-2017" ва ўмовах неабвешчанай агрэсіі Расеі супраць суседніх дзяржаваў, анэксіі Крыму, падтрымкі сэпаратысцкіх утварэньняў на ўсходзе Украіны, асобных тэрыторыях Грузіі і Малдовы, надае Беларусі статус дзяржавы-хаўрусніка агрэсіўных памкненьняў Крамля па парушэньні прынцыпу непарушнасьці межаў у Эўропе. Такім чынам афіцыйны Менск не толькі патурае небясьпечным авантурам Масквы, але і ставіць пад пагрозу незалежнасьць уласна беларускай дзяржавы.

Вучэньні "Захад-2017" падрываюць значэньне Менску як перамоўнай пляцоўкі па ўрэгуляваньні канфлікта ва Ўкраіне, спараджаюць насьцярожанасьць з боку суседніх дзяржаваў, выклікаюць напружанасьць ў рэгіёне, наносяць шкоду навакольнаму асяроддзю Беларусі і не спрыяюць маральна-патрыятычнаму выхаваньню беларускіх вайскоўцаў як надзейных абаронцаў Айчыны.

Агучаны сцэнар вучэньняў і яго рэалізацыя на практыцы сьведчаць, што праз гэтыя вучэньні адбываецца адпрацоўка не абарончых стратэгіяў, а новых захопніцкіх апэрацый Крамля, у тым ліку супраць Беларусі і з выкарыстаньнем беларускай тэрыторыі як пляцдарму для ўварваньня ў суседнія краіны.

З улікам выкладзенага, Партыя БНФ, у дапаведнасьці з ўласнай праграмай і нацыянальнымі інтарэсамі беларускага народа

- Рашуча асуджае вучэньні "Захад-2017" як праяву ўцягваньня беларускага войска ў небясьпечныя прыгатаваньні расейскіх рэваншыстаў, скіраваныя на тэрытарыяльныя захопы і на аднаўленьне імпэрыі сілавым шляхам.
- Патрабуе ад ураду Беларусі апублікаваньня поўнай і дакладнай інфармацыі пра тэрміны вываду з Беларусі расейскіх вайскоўцаў і тэхнікі, што былі перадыслякаваныя ў Беларусь падчас вучэньняў "Захад-2017", а таксама апублікаваньня інфармацыі пра выдаткаваныя на правядзеньне вучэньняў сродкі, уключна з дадзенымі пра памер нанесенай вучэньнямі шкоды навакольнаму асяроддзю і ўжытыя захады па выпраўленьні нанесеных прыродзе стратаў.
- Заяўляе, што пабудова незалежнай, па-эўрапэйску заможнай і стабільнай Беларусі магчымая толькі пры ўмове выхаду нашай дзяржавы з усіх нераўнапраўных інтэграцыйных хаўрусаў з імпэрскай Расеяй, у тым ліку з гэтак званай "саюзнай дзяржавы" і Арганізацыі дамовы пра калектыўную бясьпеку (АДКБ).
- Сьцьвярджае, што незалежнае і самастойнае разьвіцьцё сувэрэннай беларускай дзяржавы магчымае толькі ў сям'і раўнапраўных эўрапэйскіх нацыяў, бясьпека якой гарантаваная мэханізмамі паўночнаатлянтычнага партнэрства (АПАД) і новай архітэктурай эўрапэйскай бясьпекі, якая ствараецца краінамі Эўрапэйскага Зьвязу.
- Адзначае неабходнасьць вываду з тэрыторыі Беларусі ўсіх вайсковых аб'ектаў Расейскай Фэдэрацыі, у тым ліку 43-га вузла сувязі ВМФ Расіі "Вілейка" (радыёстанцыя "Антэй") і радыёлякацыйнай станцыі "Волга", тэрмін дзеяньня якіх сканчаецца ў 2020 годзе і не павінны быць працягнуты.

# ЧАМУ Я ПА-РАНЕЙШАМУ Ў БНФ

**Згадзіцеся, гэта незвычайна – чалавек зьехаў зь Беларусі шмат год таму і мог бы будаваць новае жыцьцё за яе межамі, скарыстаўшы сваё палітычнае мінулае як трамплін у будучыню. Тым ня меньш, ён ня толькі застаецца сябрам Партыі БНФ, але і зьбіраецца ўдзельнічаць у яе жыцьці, абіраецца дэлегатам зьезду. Пры гэтым заяўляе, што не прэтэндуе на партыйныя пасады, але прапануе кіраўніцтву сваю дапамогу.**

Прычына ў тым, што я па-ранейшаму застаюся беларусам, і ад гэтага мне ўжо ніколі не пазбыцца. Беларусь у мяне ў генах, і яе лёсы для мяне неабыякавыя.

Разам з тым, я ведаю толькі адну партыю, якая мае бачаньне таго, якой павінная быць нашая краіна. Гэта Партыя БНФ – адзіная ў Беларусі ідэалагічная партыя не важдзісцкага, а палітычнага толку.

Іншыя партыі адрозьнівае нязьменнасьць кіраўніцтва на працягу дзесяцігоддзяў – іх кіраўнікі ўселіся ў свае фатэлі яшчэ ў 90-я, і ня зьбіраюцца іх пакідаць. У БНФ жа за той самы час зьмяніліся ня толькі кіраўнікі, але і намесьнікі, кіраўнікі рэгіянальных арганізацыяў ды г.д. На зьмену Зянону Пазьняку прыйшоў Вінцук Вячорка, якога замяніў Лявон Баршчэўскі, які потым перадаў лейцы Аляксею Янукевічу. Зараз мы стаім напярэдадні чарговай зьмены лідара Партыі. Гэтая зьмена тым больш прывабная, што ўпершыню будзе адбывацца без яўнай вайны "улады" і "апазіцыі" ўнутры самой партыі. Як на мой погляд, гэта прыклад ня толькі для іншых партыяў, але і ў цэлым для краіны – зьмена кіраўніцтва не павінная суправаджацца вайной усіх супраць усіх і разбурэньнямі ды падзеламі на тых, хто "за", і тых, хто "супраць".

Мы сасьпяваем да таго, што ня так важная асоба кіраўніка нашай Партыі, як важная ідэалогія, сьветапогляд і праграма. А кіраўнік Партыі – як і прэзыдэнт краіны – гэта часовая і часта кампрамісная фігура, якой пасьля адстаўкі належацца гонар і павага за тую працу, якую ён рабіў для нас усіх. Мы вучымся гэтым простым ісьцінам, і нашая палітычная місія ў Беларусі – данесьці гэтыя ідэі да нашага грамадзтва.

Партыя БНФ – гэта адзіная партыя, якая мае выразны ідэалагічны падмурак і сьветапогляд. Мы будаваліся як палітычная арганізацыя на глебе нацыянальнага адраджэньня. І мы шмат дабіліся ў сваёй гісторыі – нашыя палітыкі і дэпутаты ня толькі дамагліся аднаўленьня незалежнасьці Бацькаўшчыны пасьля амаль што 200-гадовай акупацыі, але мы здолелі адстаяць нашыя каштоўнасьці ў віры палітычных падзеяў канца 90-х і пачатку 2000-х. Менавіта фронтаўцы ўсталі начале змаганьня супраць інтэграцыйных пражэктаў улады. Менавіта мы прымусілі і ўладу, і грамадзтва ўсьвядоміць важнасьць і каштоўнасьць незалежнасьці. Сацыялогія выразна паказвае – беларускае грамадзтва ўспрымае незалежнасьць краіны як вялізную каштоўнасьць і не зьбіраецца ад яе адмаўляцца. Да той жа самай ісьціны прыйшла і ўлада, уключаючы асобу кіраўніка дзяржавы. Гэтага дабіліся мы, фронтаўцы, і мы маем права гэтым ганарыцца – незалежнасьць аб'ядноўвае ўсіх нас у адзінае грамадзтва, і гэта адзіная каштоўнасьць, якая ўспрымаецца ўсімі людзьмі ў краіне, незалежна ад іх палітычных поглядаў.

Мы нават дабіліся таго, што ўлада бачыць таксама, які і мы, адкуль ідуць пагрозы Беларусі. Калі прааналізаваць дзеяньні ўлады за апошнія гады, то можна заўважыць, што яна ўсё актыўней рэалізуе нашую праграму: улады вычышчаюць са сваіх шэрагаў яўных прамаскоўскіх манкуртаў і будуюць кадравае заплечча, абапіраючыся на беларусаў. Пры гэтым, што важна, пад беларусамі мы разумеем не этнічных беларусаў, а ідэалагічных – тых, хто прымае нашую незалежнасьць і наш нацыянальны шлях разьвіцьця.

Аднак аднавіць незалежнасьць і збудаваць нацыянальную дзяржаву – гэта палова справы. Наступная задача, якая стаіць перад Беларусьсю – гэта пабудова прэстыжнай, высокаразьвітай дзяржавы з моцнай эканомікай, моцнай палітычнай пазіцыяй у рэгіёне і ў сьвеце. Нашая мэта на наступныя 20-30 год – зрабіць так, каб пашпарт Беларусі ў кішэні выклікаў гонар ва ўладальніка і павагу, а можа нават і зайздрасьць, у прадстаўнікоў іншых нацыяў і дзяржаваў.

Як гэта не парадаксальна, але ў гэтых мэтах з намі салідарная нават дзеючая ўлада. Можа мы па-рознаму бачым зь імі шляхі дасягненьня гэтых мэтаў, але самі мэты ў нас агульныя. Для нас на першым месцы стаіць вольная эканоміка, свабоднае і адкрытае грамадзтва. Для нашых апанентаў з улады на першым месцы захаваньне вялікіх прадпрыемстваў і кантроль над імі. Гэта іншы погляд, але ён мае права на жыцьцё, і мы мусім весьці дыялог і шукаць супольныя рашэньні.

У наступных артыкулах я пастараюся распавесьці, якой можа быць Беларусь ужо пры жыцьці нашага пакаленьня, праз 20-30 год. Пры ўмове, што мы, Партыя БНФ, па-ранейшаму будзем несьці ў грамадзтва нашыя ідэалы нацыянальнага адраджэньня, а ўлада будзе прыслухоўвацца да нас і рэалізоўваць нашыя праграмныя ўстаноўкі.

***Юрась Зянковіч, дэлегат Зьезду Партыі БНФ***

https://www.facebook.com/yziankovich/posts/1981595475418007

# АЛЯКСЕЙ КАВАЛЕЦ

**Пасьля доўгай барацьбы з цяжкай хваробай пайшоў з жыцьця сябра Сойму Партыі БНФ Аляксей Кавалец.**

Партыя БНФ глыбока смуткуе з прычыны сьмерці адданага фронтаўца, шматгадовага сябры Сойму, былога сакратара ўправы, шчырага патрыёта. Ад імя партыі управа Партыі БНФ выказвае спачуваньні родным, сябрам і паплечнікам спачылага.

У Менску разьвітаньне са сп. Кавальцом адбудзецца 18 верасьня, а 8.45-9.00 у рытуальнай залі на вул. Сямашкі. А 13.00 імша ў царкве ў вёсцы Вялікае Малышава Столінскага раёну, пасьля там жа пахаваньне. У сераду ў касьцёле ў Менску ў Лошыцы а 15.00 адбудзецца памінальная імша.

